## «Кубак Свабоды» ўпершыню атрымаў БНФ. Віншуем!




Склаў А.ЦУРЫКАЎ

**Па гарызанталі:**
1. Горад, рэзідэнцыя князёў Вялікага княства Літоўскага ў XIV–XV стст. 4. Едкі пах ад няпоўнага згарання. 5. Талент, здольнасць. 7. Рака, прыток Бярэзіны, басейна Дняпра. 8. Маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год. 9. Паселішча на Каўказе. 11. Насценны свяцільнік. 12. Доўгі высокі земляны насып. 13. Сенажаць, пераважна заліўная. 14. Літара грэчаскага алфавіта, абазначае гук "і". 16. Нарыс, публіцыстычны эцюд. 17. Грунт пад вадой ракі. 18. Невялікі лес. 19. Орган нюху чалавека. 20. Вялікая драпежная рыба, жыве ў рэках і азёрах. 21. Бяда, няшчасце, непрыемнасць. 22. Цвёрды выраст з касцянога рэчыва на галаве ў некаторых жывёл. 24. Зала ў тэатры. 25. Рака, прыток Шчары. 26. Травяністая расліна з высокім сцяблом і вялікімі чырвонымі кветкамі. 27. Сорт зімовых яблыкаў. 28. Партовыя збудаванні для рамонту суднаў. 29. Шматгадовая травяністая расліна сямейства ароідных з прыемным вострым пахам. 30. Урачысты верш. 31. Установа, якая мае артыстаў і ставіць спектаклі.

**Па вертыкалі:**
1. Першая сталіца Вялікага княства Літоўскага. 2. Вялікая сетка для лоўлі рыбы з суднаў. 3. Статуя, якой язычнікі пакланяліся, як бажаству. 4. Размова. 6. Дачка полацкага князя Рагвалода. 7. Горад, які, паводле біблейскай легенды, быў разбураны Богам за грахі жыхароў. 10. Першы старшыня Рады Беларускай. 11. Дэкаратыўная куставая расліна. 15. Перапончатакрылае джалячае насякомае. 23. Цвёрдасць, трываласць, якую набывае метал пасля моцнага награвання і раптоўнага ахаладжэння. 24. Хімічны элемент, ядавіты газ з рэзкім пахам.



В воскресенье, 30 августа, в парке Челюскинцев на стадионе «Вымпел» состоялся 4-й розыгрыш «Кубка Свободы» по футболу, который теперь посвящен памяти Геннадия Карпенко. В игре приняли участие команды ОГП, БНФ, Белорусской социал-демократической партии, сборной журналистов и другие. Впервые за три года кубок перешел от ОГП к команде БНФ.

*Фото Ю. Дединкина*

## КУРЫЛКА

*Жонка – мужу:*
*— Прыйшоў дамоў у пяць гадзін раніцы! У мяне проста слоў не хапае!*
*— І дзякуй Богу.*

***

*— Калі майму сыну споўнілася 18 гадоў, я сказаў, што дазваляю яму курыць цыгарэты.*
*— А ён?*
*— А ён сказаў: "Дзякуй тата, я ўжо два гады як кінуў".*

***

*— Любы, якую маску на карнавал мне надзець?*
*— Не карыстайся касметыкай, і цябе ніхто не пазнае.*

***

*Бабка з козлікам спыняе на дарозе таксі.*
*— Табе куды, бабуля? У горад? Сядай. Э, з казлом нельга!*
*— Ды Бог з табой, сынок, чаму ж нельга?! "Цёлак" жа вы возіце!*

***

*— Да якой групы па саюзах і па значэнні адносіцца складаназлучаны сказ "Бярозы распусціліся, дубы ж стаялі аголеныя"? – спытаўся настаўнік.*
*— Да эратычнай, — упэўнена адпарыраваў вучань.*

***

*Паляўнічы пры поўнай амуніцыі сустрэў свайго прыяцеля:*
*— Куды гэта ты накіроўваешся? Паляўнічы ж сезон закончыўся.*
*— Цішэй... Мая жонка аб гэтым яшчэ не ведае.*

## Беларускі календар: 11 жніўня



**Жыгімонт II АЎГУСТ**
**1.08.1520 – 7.07.1572**

Жыгімонт II Аўгуст, кароль польскі і вялікі князь літоўскі, быў апошнім з Ягелонаў – прамых нашчадкаў славутага Ягайлы. Бацькам Жыгімонта Аўгуста быў Жыгімонт I (празваны пасля Старым). Маці – знакамітая італьянка Бона Сфорца Медзічы. Яна моцна ўплывала на сына, які слухаў яе парады ва ўсім – аж пакуль паміж маці і сынам не дайшло да канфлікта з-за рамана Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл, вядомага "кахання стагоддзя"...

Маладыя гады Жыгімонт Аўгуст правёў у забавах, паляваннях, заляцаннях да прыгожых кабет. Любіў каштоўнасці і мастацтва, меў вытанчаны густ, адпаведны эпосе Рэнесанса. Але не быў прыгатаваны да кіравання дзяржавай. Хаця вялікім князем Жыгімонт Аўгуст быў прызнаны ў трохгадовым узросце, а каралём – у дзесяцігадовым, правілі ў Польшчы і Беларусі ягоныя бацькі. Нават пасля смерці Жыгімонта Старога, стаўшыся самадзейным гаспадаром, Жыгімонт Аўгуст не здолеў узяць поўную ўладу ў свае рукі і ўсё жыццё моцна залежаў ад польскай магнатэрыі.

У час панавання Жыгімонта II Аўгуста Беларусь перажыла яскравыя і драматычныя падзеі – але вялікакняская роля ў тых падзеях была невялікай. На гэты час прыпадае пашырэнне ў Беларусі ідэй пратэстантызма. Хаця сам кароль і вялікі князь не пакінуў каталіцтва, але й не перашкаджаў беларускім магнатам распаўсюджваць пратэстантызм у сваіх уладаннях. У 1563 годзе пад націскам Віленскага сойму Жыгімонт Аўгуст выдаў пастанову аб роўнасці ўсіх канфесій.

Жыгімонт II Аўгуст быў жанаты тры разы, але лёс не даў яму нашчадкаў. Першы шлюб з Эльжбэтай Аўстрыйскай меў чыста палітычны характар. Цнатлівая хваравітая аўстрыячка была не ў стане задаволіць караля з ягоным паўднёвым тэмпераментам. Поўнай процілегласцю Эльжбэце была другая жонка Жыгімонта Аўгуста, Барбара Радзівіл, якую ён шчыра кахаў. За гэтае каханне манарх вытрымаў існы бой з польскай шляхтай, якая не жадала бачыць каралевай літвінку. У адрозненне ад палітычных баталій бой за каханне Жыгімонт Аўгуст выйграў, і Барбара была каранаваная. Але заўчасная смерць маладой каралевы (хадзілі чуткі, што яе атруціла Бона Сфорца) зноў пакінула дзяржаву без спадчынніка. Няплодным быў і трэці шлюб Жыгімонта Аўгуста са старэйшай сястрой ягонай першай жонкі Кацярынай.



*Барбара і Жыгімонт Аўгуст. Малюнак А.Гротгера.*

Адсутнасць дзяцей у Жыгімонта Аўгуста сталася адным з чыннікаў, якія прывялі да лёсавызначальных для Польшчы і Беларусі падзей. Дагэтуль па традыцыі, што ішла яшчэ ад Ягайлы, вялікі князь літоўскі абіраўся таксама і каралём польскім. Але дынастыя Ягелонаў згасала – і нішто не перашкаджала літвінам-беларусам абвясціць свайго ўласнага гаспадара. Утрымаць Вялікае княства пад уплывам польскай Кароны магла ўжо не дынастычная, а толькі фактычная унія. І яна адбылася. У гульні польскіх палітыкаў, якія дабіваліся стварэння унітарнай дзяржавы, і беларусаў, што адстойвалі самастойнасць Вялікага княства, Жыгімонт Аўгуст нагадваў шахматнага караля, за якога б'юцца абодва бакі, але няздольнага рабіць значныя хады. "Што мне параіць рада і рыцарства, так і зраблю", – неаднойчы казаў кароль і вялікі князь.

Пасля Люблінскай уніі Жыгімонт Аўгуст амаль цалкам адышоў ад кіравання краінай. Памёр ён яшчэ не старым – на пяцьдзесят другім годзе жыцця, – але знясіленым хваробамі, спусташоным распустай, пакінуўшым дзяржаву з саслабелай уладай. На Жыгімонце Аўгусце скончылася дынастыя Ягелонаў і яе трыумфальная моц.

Наталля МЯЦЕЛЬСКАЯ.

## ПРОГРАММА ТВ — ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13 АВГУСТА

**БТ**
7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Мультсериал «Путешествие в прошлое»(США).
8.30 Здоровье. Тележурнал.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
9.25 Мультиклуб.
9.55 «Индаба». Приключенческий телесериал (Франция).
10.20 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых.
10.40 «Все нормально, мама!». Развлекательная программа.
11.10 «Премьер-парад». Юмористическая программа.
11.35 Арсенал. Программа об армии.
12.00 Марсово поле. Музыкально-развлекательная программа.
12.20 Королевская охота.
12.50 Семейный телеканал «На волне взаимопонимания».
13.35 Сериал по выходным. «На гребне волны»(США).
14.20 Международные спортивные новости.
14.35 Сельчане. Минская область.
15.10 «Сегодня с вами...». Депутат Минского городского Совета, председатель постоянной депутатской комиссии по коммунальной собственности Кирилл Холопик.
15.35 Международный французский канал (CFI) представляет: «Цирк Масси». 1-я часть. Мультфильм «Телетун». 1-я и 2-я серии, док. фильм «Жизнь в песчаных дюнах», «Фильмы братьев Люмьер», 1–5-я серии. Концерт Жюльетт Греко. 1-я часть.
Вступительное слово Чрезвычайного и Полномочного Посла Франции в Республике Беларусь Бернара Фасье.
17.45 «Наши песни». Авторская программа Анатолия Ярмоленко.
18.15 Теленавигатор.
18.35 Банка комиксов.
19.00 «Судьба человека». Муза Заслонова.
19.30 Стадион.
20.00 Резонанс.
20.55 Ток-шоу «Карамболь» с участием Елены Яковлевой.
21.25 Е.Глушенко в худ. фильме «Зина-Зинуля»(«Мосфильм»).
22.50 Суперобраз XXI столетия.
23.20 Столичный хит. Музыкально-развлекательная программа.
24.00 Авто-парк.

**ОРТ**
07.00, 09.00, 14.00, 17.00 Новости.
07.10 Служу России!
07.40 «Аладдин».
08.10 Утренняя звезда.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 Пока все дома.
10.05 Комедия «Альф».
10.35 Здоровье.
11.05 Фильм «Наша дача».
12.50 Воднолыжный спорт. Чемпионат Европы.
13.45 История одного шедевра.
14.10 Сериал «Горец».
15.00 Возможно все!
15.20 «101 далматинец».
15.50 «Новые приключения Винни-Пуха».
16.15 «В поисках утраченного». Любовь Орлова.
17.15 Евгений Петросян приглашает.
18.05 «Ералаш».
18.15 Комедия «Белые Росы».
20.00 Время.
20.55 Погода.
21.00 КВН-2000.
23.05 Время футбола.
23.45 Фильм «Музыка под мостом».

**РТР**
07.00 «Тайна третьей планеты». Мультфильм.
07.50 Папа, мама, я - спортивная семья.
08.45, 01.20 Прогноз погоды.
08.50 Доброе утро, страна.
09.30 «Аншлаг» и К.
10.30 «Городок».
11.00 Русское лото.
11.40 Комедия «За двумя зайцами».
13.00, 19.00 Вести.
13.20 Диалоги о животных.
14.05 Планета Земля.
14.55 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Венгрии.
17.05 Боевик «Полицейская история-II».
19.35 Боевик «Крестоносец».
21.35 «Сам себе концерт».
23.25 Программа «Реальное кино».
23.50 Док.фильм «Среда».

**НТВ**
07.00, 09.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
07.15 Сериал «Голубое дерево».
08.10, 21.45 Сериал «Неприкасаемые».
09.20 Путешествия натуралиста.
09.50 Премьера НТВ. «Рублевая зона».
10.20 «Полундра».
11.30 Служба спасения.
12.00 Фильм «Нью-Йорк, Нью-Йорк».
15.25 Большие родители.
15.55 Независимое расследование.
16.50 Сериал «Она написала убийство».
18.35 Боевик «Сахара».
20.45 «Куклы».
22.50 Криминальный фильм «Мелкий бес».

**КУЛЬТУРА**
09.05 «Аистенок».
09.30 Откуда музыка берется?
09.45 «Финист - ясный сокол». Худ.фильм.
11.00 Мой цирк.
11.25 Экспедиция «Чиж».
11.50 «Консилиум».
12.15 «Ну, погоди!».
13.05 «Жизнь прекрасна». Док.фильм.
13.30, 21.00 Новости культуры.
13.45 Вестерн «Большие деревья».
15.15 «А потом была жизнь». Моноспектакль.
16.10 «Мой Эрмитаж».
16.35 Мультфильмы.
17.15 Венедикт Ерофеев.
17.45 Опера «Фальстаф».
20.30 «Кто там...».
21.20 «За облаками». Худ.фильм.
23.05 Р.Шуман. «Экзерсисы».

**ТВ6**
06.00 Детективный боевик «Незабываемое».
07.55, 12.25, 17.15 Дорожный патруль.
08.05 Мультфильм «Желтый аист».
08.20 «Амба-ТВ».
08.50 «Ле-go-go».
09.25 «Все в сад!».
09.55 Стильное шоу «Fasон».
10.25 «Фактор успеха».
10.55 «Шоу Бенни Хилла».
11.55 Канон.
12.45 Комедия «Моя любовь».
14.10 Телемагазин «Формула здоровья».
14.20 «Вы - очевидец».
15.15 Сериал «И снова 33 квадратных метра».
15.50 «О.С.П. - лучшее».
16.20 Катастрофы недели.
17.35 Фильм «Неприкасаемые».
19.15 Детектив «В выигрыше все».
21.10 Триллер «Криминальное время».
23.20 Ваша музыка. Владимир Назаров.
00.15 Сериал «Дневники Красной туфельки».



РАБОЧЫ
ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Заснавальнік і галоўны рэдактар Віктар ІВАШКЕВІЧ

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1255 ад 27.12.99г. Наклад 20 000.
Нумар падпісаны ў друк 01.08.2000 г. у 19.00. Заказ 561
Надрукавана ў друкарні ПП "Мэджык" (г.Мінск, вул.В.Харужай, 13/61)

Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды,23, «РАБОЧЫ»
E-mail: kapp@irex.minsk.by
Тэл. (017)227-04-54
Тэл./факс (017)227-13-16